


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны




**Цытата нумара:**

**Дыктатара нараджае натоўп, а скідвае народ**

***Аркадзь Давідовіч***

№5 (156), САКАВІК 2013 ГОДА

МЕРКАВАННЕ

# ПАТРЫЯТЫЗМ ЦІ ПРАГМАТЫЗМ?

Як паведаміў партал TUT.BY, больш як траціна беларусаў ахвоча з'ехала б за мяжу. Як вынікае з найноўшага апытання, затрымаць людзей на Радзіме можа толькі сям'я і заробак як мінімум у 10 мільёнаў беларускіх рублёў.

Вынікі апытання, якое правёў Беларускі Інстытут Стратэгічных даследванняў, агучылі аналітыкі інстытута - сацыёлаг Алена Арцёменка і Андрэй Елісееў, магістр міжнароднага і еўрапейскага права. Паводле апытання, за перыяд незалежнасці Беларусі, з Беларусі эмігравалі не меней як 200 тысяч грамадзян. Найболей беларусаў з'ехала ў Расію, Ізраіль, Злучаныя Штаты, Нямеччыну, Польшчу ды іншыя краіны Еўразвяза. Што тычыцца Расіі, то людзі пераважна накіроўваюцца туды на часовую працу і як правіла вяртаюцца, аднак у развітыя і больш заможныя краіны, у Еўразвяз і ЗША, з'язджаюць назаўсёды. У параўнанні з 2009-м годам, у канцы мінулага года заўважна знізілася доля тых, хто ганарыцца сваёй краінай і таму хацеў бы ў ёй застацца. Яшчэ чатыры гады таму такіх беларусаў, якія ні за што не гатовы пакінуць Беларусь, было 15%, а цяпер іх усяго 10%. Пры гэтым эксперты прагназуюць далейшае пагаршэнне міграцыйнага сальда. Пакуль што, па любой прычыне, палітычнай, асабістай ці эканамічнай, за мяжу хочуць трохі болей за 35% беларусаў. Аднак 60% з іх стрымліваюць ад эміграцыі асабістыя альбо сямейныя сувязі. Зноў жа 65% з ліку тых, якія хочуць памяняць "сінявокую" на іншую краіну гатовы адмовіцца ад сваёй задумы, калі пачнуць прыстойна зарабляць. Прымальныя заробкі, якія падмацоўваюць іхны патрыятызм, яны ацэньваюць у 10 мільёнаў рублёў, альбо 1150 даляраў.

Дарэчы, як паказалі ранейшыя даследванні, сярод тых, хто хацеў бы з'ехаць з Беларусі, ажно 60% складаюць маладыя людзі, да 30-га году жыцця. Гэта пераважна жыхары вёсак і невялікіх гарадоў. Усе апытанні паказваюць, што 60-80% маладых беларусаў хацела б выехаць на пастаяннае жыхарства за мяжу. Найбольш прывабнымі ім падаюцца блізкія, еўрапейскія краіны, за выключэннем ЗША, якія хоць і далёка, але вабяць маладых беларусаў найболей. Дарэчы ацэньваецца, што за апошнія 20 гадоў туды з'ехала 60 тысяч беларусаў.

У свой час намеснік старшыні НІСЭПД Аляксандар Сасноў заявіў, што маладых беларусаў не задавальняе актуальная сітуацыя ў краіне. Маўляў, "многія маладыя, больш сучасныя людзі не могуць жыць ва ўмовах падаўлення чалавечай годнасці. А беларуская дзяржава ўсё робіць дзеля таго, каб нашым жыццём кіраваў чыноўнік, бюракрат". Па-мойму, тут ідзе гаворка ні пра годнасць, ні пра палітыку, ні пра адсутнасць справядлівасці і свабоды. Маладыя людзі ў найменшай ступені цікавяцца палітыкай, затое яны з дапамогай інтэрнэту і сучасных тэхналогіяў больш ведаюць пра навакольны свет. Яны сумуюць за лепшым жыццём без матэрыяльных праблемаў. Патрыятызм і гонар за Радзіму тут ні пры чым. У суседняй Польшчы даволі высокае пачуццё гонару за сваю Радзіму, але 2 мільёны палякаў жывуць і працуюць за мяжою і многія не хочуць вяртацца. Напэўна многія з іх сумуюць па Радзіме, але іх найперш палохае бясправоўе, нізкія заробкі і бесперспектыўнасць. Іх стрымлівае ад вяртання звычайны прагматызм. Як кажуць: "рыба шукае - дзе глыбей, а чалавек - дзе ляпей". Думаю, што і ў выпадку Беларусі спрацоўвае не гонар за Радзіму альбо яго адсутнасць, але менавіта гэты практычны чыннік.

**Кастусь Бандарук**
**Беларускае Радыё Рацыя**

КРЫЗІСНАЯ З'ЯВА

# БУДАЎНІЦТВА ЖЫЛЛЯ АМАЛЬ СПЫНЕНА

**На пачатку 2013 году Гарадоцкі раён мае адзін з самых нізкіх паказчыкаў увода ў эксплуатацыю жылых дамоў, як на Віцебшчыне, так і ў краіне.**

Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў даныя аб інвестыцыях і будаўніцтве ў краіне за першыя два месяцы бягучага году. З прыведзеных статыстычных даных вынікае, што Гарадоцкі раён мае адны з самых нізкіх у вобласці паказчыкі па прыцягненню інвестыцый у будаўніцтва жылля, а таксама кепскія лічбы па здадзенаму жыллю.

За першыя два месяцы гэтага года ў жыллёвае будаўніцтва было прыцягнута 1,2 млрд. рублёў інвестыцый, што склала толькі 43,8% ад адпаведнага перыяду 2012 года. Але яшчэ большы спад у прыцягненні інвестыцый у жыллёвае будаўніцтва маюць Ушацкі, Чашніцкі і Верхнядзвінскі раёны (адпаведна – 33,4%; 23,1%; 7,4%).

Зменшэнне інвестыцый прывяло і да абвальнага змяншэння здачы ў эксплуатацыю жылых дамоў у Гарадоцкім раёне. У студзені месяцы не было уведзена ў эксплуатацыю ніводнага квадратнага метра жылля. За люты месяц па афіцыйных даных у раёне было здадзена толькі 156 кв.м. жылля або 5,8% да першых двух месяцаў мінулага году. Гэта самы кепскі паказчык на Віцебшчыне. Такога кепскага старту года ў будаўніцтве жылля даўно не было.

Выпраўленне гэтага становішча наогул будзе складанай праблемай, калі ў Гарадку распачнецца праца па падрыхтоўцы да планаемых Дажынак. Тут ужо будзе не да жыллёвага будаўніцтва.

Кепскае становішча ў будаўніцтве жылля выклікае заклапочанасць і абласнога кіраўніцтва. Аляксандр Косінец на апошняй сесіі Віцебскага аблсавета канстатаваў, што пры плане здачы ў эксплуатацыю у першым квартале 150 тыс. кв. м. жылля будзе па прагнозу здадзена толькі 50 тыс. кв. м.. Старшыня аблвыканкама звязвае гэта з кепскай працай домабудаўнічых камбінатаў у Віцебску і Наваполацку. Наогул у будаўніцтве рэгіёна наспеў час прымаць непапулярныя меры, у тым ліку і арганізацыйна-кадравыя, лічыць Аляксандр Косінец.

**Л. Антонаў**

НАШЫ ПРАВЫ

# ЗАСУДЗІЦЬ НА ДЗЕНЬ ВОЛІ

25 сакавіка пасля 18 гадзін суддзя Іна Грабоўская ў Кастрычніцкім судзе г. Віцебска распачала па сутнасці разгляд адміністрацыйнай справы супраць актывістаў Партыі БНФ Лявона Аўтухова (г. Гарадок) і Кастуся Смолікава (г. Віцебск). Актывісты былі затрыманы 22 сакавіка пры распаўсюдзе партыйнага выдання "Магістрат" на тэрыторыі гандлёвага цэнтра "Эвіком"

Актывісты Партыі БНФ былі дастаўлены ў Кастрычніцкі суд г. Віцебска пасля 11 гадзін і толькі пасля 12 гадзін распачаўся судовы працэс, які даручылі ажыццяўляць суддзе Іне Грабоўскай. Да гэтага часу, яшчэ 23 сакавіка, праваабаронца Раман Кісляк накіраваў скаргі ў Міністэрства унутраных спраў, Генеральную пракуратуру і адпаведныя структуры Віцебшчыны аб неабходнасці неадкладнага вызвалення Л. Аўтухова і К. Смолікава або разгляду іх справы не пазней 48 гадзін, г.зн. не пазней 13 гадзін 24 сакавіка, адпаведна артыкула ч.2 арт. 11.2 Працэсуальна-выканаўчага кодэксу аб адміністрацыйных парушэннях. Аналагічную скаргу падаў суддзі і Лявон Аўтухоў, толькі суддзя потым у судовым паседжанні яе не разгледзіла.

На Віцебшчыне гэтую норму беларускага заканадаўства праігнаравалі, а кіраўніцтва Віцебскага упраўленне юстыцыі ў панядзелак а дзесятай раніцы на рабочых месцах адсутнічала, тэлефоны "гарачых" ліній маўчалі. Аб незразумелай сітуацыі з бяздзейнасцю упраўлення юстыцыі Віцебскага аблвыканкама і ігнараваннем нормаў заканадаўства давялося паведамляць на гарачую лінію Міністэрства юстыцыі. Пры звароце прасілі прыняцця неадкладных мер да выпраўлення сітуацыі, як з адсутнасцю кіраўніцтва ўпраўлення абласной юстыцыі, так і адносна затрыманых актывістаў.

Працэс распачаўся з таго, што суддзя Грабоўская забараніла фота і відэа здымку пад час паседжання суда. Але калі з залы суда пачалі выдаляць Пятра Іванова, які павіншаваў суддзю з Днём Волі, то відэа –здымку распачаў супрацоўнік органаў. Толькі да яго суддзя Грабоўская ніякіх мер не прыняла. Аб неаб'ектыўнасці суддзі Грабоўскай і неабходнасці выдалення гэтага грамадзяніна ў цывільным была зроблена запіс у кнізе скаргаў суда Кастрычніцкага раёна для прыняцця неадкладных мер і паведамлена неадкладна яго старшыні Яўгену Бурунову.

Далейшы разгляд справы актывістаў засведчыў, што суддзя Грабоўская І.В. заклапочана перш за ўсё завяршэннем справы ў Дзень Волі, а не ўсебаковым, поўным і аб'ектыўным даследаваннем абставін справы і выкананнем іншых патрабаванняў да вядзення судовага працэсу.

Пад час паседжання Кастусю Смолікаву было адмоўлена ў праве мець абаронцу. Суддзя Грабоўская не задаволіла хадайніцтва адваката аб накіраванні матэрыялаў справы на дапрацоўку ў Кастрычніцкі РАУС, бо пратакол аб правапарушэнні не меў дакладнага вызначэння нормы заканадаўства, якую парушылі актывісты, не ўтрымліваў спіса сведак па справе, не меў спіса дакументаў да пратакола, а матэрыялы справы ні прашнураваны, ні пранумараваны.

Пасля гэтага Лявон Аўтухоў заявіў хадайніцтва пра адвод суддзі, бо яна дэманстравала асабістую зацікаўленасць у выніках дадзенай справы, а не аб'ектыўным даследаванні справы. Суддзя Грабоўская не задаволіла гэта хадайніцтва, як і наступнае хадайніцтва Аўтухова -- прыпыніць разгляд справы дзеля падачы скаргі на яе незаконныя дзеянні старшыні Кастрычніцкага суда.

Пры далейшым разглядзе справы адвакат падрыхтаваў скаргу старшыні суда на незаконныя дзеянні суддзі, але Іна Грабоўская, далучыўшы скаргу да матэрыялаў справы, не перадала яе старшыні суда і не зрабіла перапынак у паседжанні, каб гэта мог зрабіць сам адвакат.

Прысуд па справе Іна Грабоўская вынесла ў 20.45, не сыходзячы ў іншая памяшканне для яго падрыхтоўкі. Лявон Аўтухоў і Кастусь Смолікаў атрымалі пяць сутак арышту.

Сябры Партыі БНФ, якія па іх меркаванню судзілі з парушэннем нормаў беларускага заканадаўства, маюць намер абскардзіць вынесены прысуд.

**Леанід Гаравы**

ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ

# ПРАВАЛЬНЫ СТАРТ ГОДА

**Першыя два месяцы года сталі правальнымі для эканомікі Гарадоцкага раёна. Асабліва крызіс паглыбіўся ў фінансавай сферы.**

Нацыянальны статыстычны камітэт ( belstat.gov.by ) апублікаваў статыстычныя даныя абасноўных паказчыках сацыяльна-эканамічнага развіцця раёнаў краіны за першыя два месяцы 2013 году. Гарадоцкі раён і раней не меў асаблівых дасягненняў у прамысловасці і фінансавым дабрабыцце. Але апублікаваныя даныя сведчаць, што кіраўніцтва прадпрыемстваў і райвыканкама правaліла старт трэцяга году пяцігодкі.

Лічбы негатыўных тэндэнцый у прамысловасці і фінансах уражваюць. Гэтыя лічбы сведчаць аб паглыбленні крызісных з'яў у раёне. Напрыклад запасы гатовай прадукцыі на складах прамысловых прадпрыемстваў выраслі з 300 млн. руб. да 2 млрд. 400 млн. рубл. – у восемь разоў, а ў працэнтным лічэнні гэтыя сярэднемесячныя запасы выраслі з 5,2% да 15,3% аб'ёма сярэднемесячных прамысловых вырабаў.

Пры гэтым адбыўся гіганцкі скачок стратнасці эканамічнай дзейнасці: калі ў мінулым годзе за першых два месяцы спрацавалі са стратамі на 63 млн. руб., то ў гэтым годзе аж на адзін мільярд шэсцьсот чатырнаццаць мільёнаў – горш амаль у 24(!!) разы. Адпаведна колькасць стратных арганізацый вырасла ў пяць разоў – з 8,7% да 43,5%.

Такая вытворчая дзейнасць прывяла да значнага пагаршэння фінансавага становішча прадпрыемстваў. Пратэрмінаваная дэбіторская запазычанасць арганізацый вырасла з 4,7 млрд. рублёў у 2012 да 12,3 млрд. руб. ў 2013 г., а крэдыторская адпаведна з 27,1 млрд. руб. да 76,2 млрд. руб.. Пры гэтым пратэрмінаваная крэдыторская запазычанасць па падатках, зборах і сацыяльнаму страхаванню вырасла з 351 млн. рублёў мінулага перыяду да 4688 млн. рублёў на цяперашні час – у 13,8 раза.. Таксама аказваецца арганізацыі і грамадзяне не разлічваюцца за паліўна-энергетычныя рэсурсы і іх спажыванне ў доўг вырасла з 689 млн. рубл. мінулай зімы да 3394 млн. рублёў на канец гэтага лютага -- амаль ў пяць разоў.

У гэтай сітуацыі выклікае задуменне, што намінальныя налічаныя сярэднемесячныя заробкі выраслі за год з 2151 тысячы руб. да 3197 тысяч рублёў. Пры гэтым статысты сцвярджаюць, што рэальны рост заробкаў узрос на 120,6% да папярэдняга перыяду.

Зараз ужо забыліся заклікі старшыні Віцебскага аблвыканкама Аляксандра Косінца ў 2010 году зрабіць на працягу двух гадоў раённыя бюджэты без датацыйнымі за кошт актывізацыі мясцовай прамысловасці. Але шчэ на памяці папулісцкія абавязкі для раёнаў агучаныя вышэйшым кіраўніцтвам -- стварыць у 2013 годзе у кожным раёне 10 новых прадпрыемстваў з колькасцю працоўных месцаў каля 50. Пры такім старце было б дасягненнем захаваць тое, што раней мелі. У рэальнасці, а не на паперы.

**Леанід Гаравы**

# Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

***********

Наша газета "Гасцінец" стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/hasciniec.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання.

***********

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

СПАРТЫЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# БІЯТЛОННЫ СЕЗОН ЗАВЯРШЫЎСЯ НА МІНОРНАЙ НОЦЕ

**У расійскім Ханты-Мансійску 17 сакавіка завяршыўся Кубак свету па біятлону. Гэты этап стаў самым горшым для беларускай каманды.**

Поспехі беларускай каманды звязаны перш за ўсё з Дар'яй Домрачавай, якая другі год запар займае другое месца ў сусветнай біятлоннай кваліфікацыі. Але калі адбываецца спад формы ў Дары, то замяніць яе няма каму. Гэта і падцвердзілі старты ў Ханты-Мансійску.

Дар'я Домрачава ў спрынце паказала 13-ы вынік пры адным промаху, у пасьюце была 11-й, а ў мас-старце, дзе магла пазмагацца за малы Крышталёвы глобус, апынулася толькі на 23-м месцы пры шасці промахах. Надзея Скардзіна, якая правяла свой самы лепшы сезон, на фінішы таксама выступіла пасрэдна: 34-е месца ў спрынце, 40-е ў гонцы праследавання і 27-е месца ў мас-старце.

Наша Настасся Дубарэзава таксама не скарыстала апошні шанец для паляпшэння выніку: у спрынце – 55-е месца пры трох промахах, а ў пасьюце – 52-е пры шасці промахах. У Людмілы Калінчык адпаведна 58-е месца ў спрынце і 47 –е ў пасьюце.

Трыумфатарам апошняга этапу стала чэшка Габрыэла Саўкалава, якая перамагла ва ўсіх трох стартах: спрынце, пасьюце і мас-старце. Гэты выдатны вынік дазволіў Саўкалавай з 800 ачкамі фінішаваць на ганаровым шостым месце ў агульным заліку Кубка Свету па біятлону. Гэта выдатны вынік, бо год назад Габрыэла мела на фінішы сезону толькі 93-е месца з 4 ачкамі.

Упэўненую перамогу па выніках сезону атрымала нарвежка Тура Бергер, якая набрала найбольшую суму балаў сярод біятланістак за ўвесь час правядзення Кубка свету – 1234. Тура дамініравала амаль на ўсіх этапах Кубка свету за выключэннем апошняга, калі ўжо завяала ўсе Кубкі сезону і паставіла рэкорд свету па залатых медалях у чэшскім Нова-Мясце.

Дар'я Домрачава засталася ў агульным заліку на другім месцы, але набрала на 264 ачка менш, чым у гонцы за легендарнай Магдаленай Нойнер – 924 бала. Надзея Скардзіна правяла свой лепшы сезон, які завяршыла на 18-м месцы, маючы бронзу за спрынт у славенскай Паклюке. Людміла Калінчык апусцілася з мінулагодняга 42-га месца на 53-е.

Настасся Дубарэзава таксама мусіць аднясе гэты сезон у пасіў, бо праблемы са стральбой, часам курьёзныя, значна дадаліся ў гэтым сезоне. Але прынцыповым з'яўляецца тое, што ў сярэдзіне сезону Дубарэзавай давялося меняць ложа стрэльбы, каб атрымаць прагрэс у стральбе. Дзіўна тое, што пры такіх кваліфікаваных трэнерах другі нумар каманды вымушаны рашаць гэта пытанне ў разгар сезона, а не пад час падрыхтоўкі да яго. Вынікам гэтай сітуацыі стаў рух уніз у выніковай табліцы Кубка свету: калі ў папярэднім сезоне было 33-е месца, то ў гэтым толькі – 55-е – чацвёртае ў беларускай камандзе.

Зараз каманда накіроўваецца на адпачынак, каб праз два месяцы распачыць мэтанакіраваную падрыхтоўку да алімпійскага сезону. Для беларускай каманды востра паўстала пытанне чацвёртага нумара каманды. Надзея Пісарава, якая была ўключана ў эстафетную каманду ў Сочы, паказала на сваім этапе стральбу шчэ горшую, чым Дубарэзава. Шанец перацягнуць у каманду каго-небудзь з расіянак у перадалімпійскі час мінімальны, бо яны апекліся з Марыяй Панфілавай, якая годна выступае за украінскую каманду. Застаецца рабіць стаўку ны тых біятланістак, якія ёсць у краіне. Пажадаем поспехаў Настассі Дубарэзавай, каб яна значна палепшыла сваю стралковую падрыхтоўку і годна падрыхтавалася да алімпійскага сезону – вырашальнага ў спартыўнай карьеры.

**Л. Антонаў**

ЗДАРЭННЕ

# НАМЕСНІК "ГЛАВЫ" МЯСЦОВАЙ ВЕРТЫКАЛІ ЗЛОЎЛЕНЫ НА КРАДЗЯЖЫ

**Крымінальная справа распачата ў дачыненні да першага намесніка старшыні - начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Гарадоцкага райвыканкама, паведамілі карэспандэнту БЕЛТА Вользе Багачовай ў Камітэце дзяржкантролю Віцебскай вобласці.**

У дачыненні да гэтага кіраўніка кіраўніцтвам Следчага камітэта па Віцебскай вобласці распачата крымінальная справа па ч.3 арт.210 КК (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, здзейснены ў буйным памеры).

Падставай для прыцягнення да крымінальнай адказнасці высокапастаўленай службовай асобы сталі факты, выкрытыя па выніках праведзенай у 2012 годзе КДК Віцебскай вобласці сумесна з кіраваннем ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама праверкі шэрагу камунальных унітарных сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Гарадоцкага раёна. У прыватнасці, па ўказанні начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Гарадоцкага райвыканкама дырэктар адной з мясцовых сельгасарганізацый незаконна адпусціў прадстаўнікам камерцыйнай фірмы з Магілёўскай вобласці без аплаты і афармлення адпаведных дакументаў насенне траў на суму каля Br20 млн.

УКДК вобласці адзначылі, што супрацоўнікі камітэта ў ходзе выканання мерапрыемстваў дзяржпраграмы па барацьбе са злачыннасцю і карупцыяй на пастаяннай аснове ажыццяўляюць праверкі па пытаннях выканання заканадаўства пры распараджэнні дзяржаўнай маёмасцю, стану ведамаснага кантролю за фінансава-гаспадарчай дзейнасцю арганізацый і іншых пытаннях. Па ўсіх выкрыта фактах карупцыйных правапарушэнняў прымаюцца меры, накіраваныя на забеспячэнне прыцягнення вінаватых да адказнасці і ліквідацыю наступстваў гэтых правапарушэнняў.

П.С. Пакаранне па ч.3 арт. 210 КК РБ прадугледжвае пазбаўленне волі на тэрмін ад трох да дзесяці гадоў з канфіскацыяй маёмасці і з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю.

НАДЗВЫЧАЙНАЕ ЗДАРЭННЕ

# ПАКАРАННЕ ЗА ЗГВАЛТАВАННЕ ДВУХ НЕПАЎНАГАДОВЫХ СЯСЦЁР

**Завершана закрытае судовае разбіральніцтва па адной з самых блюзнерскіх крымінальных спраў у Гарадоцкім раёне. Асуджаны сужыцель вясковай грамадзянкі, які згвалтаваў двух яе непаўнагадовых дачок.**

Паводле інфармацыі старэйшага памочніка пракурора Гарадоцкага раёна Арцёма Заікіна, размешчанай на сайце Гарадоцкага райвыканкама на лаве падсудных апынуўся раней не судзімы 48 гадовы жыхар Гарадоцкага раёна. Іван (назавем так гэтага злачынца) пражываў з сужыцелькай, у якой на ўтрыманні знаходзілася дзве дачкі 12 і 13 гадоў адпаведна. Абедзве пакутавалі разумовай адсталасцю, у сувязі з чым, мелі патрэбу ў адмысловым даглядзе і апецы над імі.

Нават незразумела якім чынам і калі ў Івана паўстала жаданне згвалтаваць, але следствам было дакладна высветлена, што ён у канцы лютага 2012 года, загадзя ведаючы пра малалетні узрост і псіхічнае расстройства трынаццацігадовай дачкі сужыцелькі, таемна згвалціў яе. Зробленае злачынства пацягнула цяжкія наступствы. У прыватнасці здзіўленая маці дзяўчынкі ад гінеколага даведалася, што яе дачка цяжарная. Па медыцынскіх паказаннях у сувязі з пагрозай жыцця дзяўчынкі цяжарнасць прыйшлося перапыніць. Праведзеная генатыпаскапічная экспертыза ўстанавіла, што менавіта Іван з'яўляецца біялагічным бацькам плода. Як толькі следства выйшла на злачынца, ён быў заключаны пад варту.

У ходзе расследавання гэтай крымінальнай справы было ўстаноўлена, што Іван таксама здзейсніў таксама згвалтаванне 12 гадовай дачкі сужыцелькі. Гэта пацвярджалася шматлікімі доказамі.

Дзеянні Івана былі кваліфікаваныя следствам па ч. 3 арт. 166 "Згвалтаванне" Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь, як згвалтаванне заведама малалетняй, з прычыненнем іншых цяжкіх наступстваў, здзейсненае паўторна. Дадзеная кваліфікацыя выстаяла і ў судзе, дзе Іван ўсяляк спрабаваў сысці ад адказнасці і ўвесці суд у зман, каб змякчыць сваю адказнасць.

Па прысудзе суда Гарадоцкага раёна яму прызначана пакаранне ў выглядзе 14 гадоў пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі ва ўмовах ўзмоцненага рэжыму.

**Л. Антонаў**

КРЫМІНАЛ

# ЗАБІЎ МАЦІ, А ПАСЛЯ ТУРМЫ І БАЦЬКУ

**Суд Гарадоцкага раёна завершыў судовае разбіральніцтва па гучнай крымінальнай справе аб забойстве бацькі сынам. Дзевяць гадоў назад гэты сын быў асуджаны за дзеянні, якія прывялі да забойства маці.**

Паводле інфармацыі старшага памочніка пракурора Гарадоцкага раёна Арцёма Заікіна размешчанай у сеціве на старонцы Гарадоцкай пракуратуры забойца атрымаў 20 гадоў пазбаўлення волі.

Саракапяцігадовы жыхар Гарадка, грамадзянін Л., нічым сябе не праславіў у жыцці акрамя здзяйснення злачынстваў. За сваё жыццё ён паспеў набыць не адну судзімасць, у асноўным за здзяйсненне карыслівых злачынстваў. Грамадзянін вёў разгульны лад жыцця, злоўжываў спіртнымі напоямі, не працаваў. У выніку такога ладу жыцця ў 2004 годзе ён быў асуджаны па ч. 3 арт. 147 КК Рэспублікі Беларусь на шэсць гадоў за прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў сваёй маці, ад якіх апошняя памерла. За дзеянні, пазбавіўшыя маці жыцця, наш рэцыдывіст атрымаў тады амаль мінімальны тэрмін пазбаўлення волі.

Гэты тэрмін у месцах пазбаўлення волі праляцеў хутка. Рэцыдывіст выйшаў на волю ў 2010 годзе і працягнуў весці асацыяльны лад жыцця. Грамадзяніну Л. не дапамагло і лячэнне ў лячэбна-працоўным прафілакторыі. Выйшаўшы з ЛПП і стаўшы на ўлік ва ўрача нарколага з дыягназам сіндром залежнасці ад алкаголю аб лячэнні Л. не задумваўся. І бяда здарылася зноў.

7 верасня мінулага году Л., будучы ў стане алкагольнага ап'янення дома на глебе асабістых непрыязных адносін учыніў сварку са сваім састарэлым бацькам. Дзеля наўмыснага пазбаўлення жыцця 74-гадовага бацькі, дзейнічаючы з асаблівай жорсткасцю, сын нанёс яму не менш дваццаці ўдараў абутымі нагамі ў галаву і тулава. Старому чалавеку былі нанесены цялесныя пашкоджанні ў выглядзе цяжкай траўмы галавы і тулава, ад якіх той сканаў на месцы здарэння.

Дзеянні Л. былі кваліфікаваныя па ч. 2 арт. 139 "Забойства" КК Рэспублікі Беларусь як наўмыснае супрацьпраўнае пазбаўленне жыцця іншага чалавека ці забойства, загадзя састарэлага асобы, учыненае з асаблівай жорсткасцю. Рэцыдывісту назначана пакаранне ў выглядзе 20 гадоў пазбаўлення волі. На волю ён можа выйсці ў 65-гадовым узросце.

**Л. Антонаў**

НАША ЎЛАДА

## ЛУКАШЭНКА Ў ЭМІРАТАХ
# ТРОХІ АДПАЧЫВАЕ?

**Яшчэ 14 сакавіка Аляксандр Лукашэнка выправіўся на перамовы з Уладзімірам Пуцінам у Пецярбург. Ад таго часу, па ўсёй імавернасці, яго яшчэ не было ў Беларусі.**

Прычым пасля па ўсіх мерках зацягнутых візітаў у Сінгапур і Інданэзію адбыўся нечаканы пералёт у Аб'яднаныя Арабскія Эміраты — папулярны зімовы турыстычны маршрут. Па стане на 26 сакавіка кіраўнік Беларусі заставаўся недзе на берагах Персідскай затокі.

На тое, што на дадзеным кірунку дзяржаўны інтэрас можа спалучацца з адпачынкам, сведчыць хоць бы і той факт, што Аляксандра Лукашэнку дагэтуль не прыняў кіраўнік Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў, прэзідэнт Халіфа ан-Нахаян. Сустрэў еўрапейскага госця толькі міністр унутраных спраў у рангу віцэ-прэм'ера, а таксама спадчынны прынц Мухамедон бэн Заід аль-Нахаян.

«Такое ўражанне, што ў Эміратах Аляксандр Лукашэнка праездам дахаты, — сказаў радыё «Свабода» палітычны аглядальнік Раман Якаўлеўскі. — І не болей за тое. З Лукашэнкам яшчэ ж 80 чалавек разам. І гэта сведчыць пра тое, што Беларусьсю можна кіраваць дыстанцыйна. І, акрамя снежнай буры, у краіне нічога не здарылася», — іранізуе сп. Якаўлеўскі.

Натуральнай задачай азіяцкага турнэ бачыцца не толькі продаж беларускай прадукцыі — прычым, як паказвае прыклад М'янмы, вынік часта неадпаведны пакладзеным высілкам. Галоўнай задачай мог быць пошукінвестараў, гатовых купіць акцыі «Беларуськалія», МТС ці чагосьці іншага, прыдатнага для продажу ва ўмовах, калі краіне трэба знайсці дадатковыя сродкі для абслугоўвання замежнай запазычанасці. У 2013 годзе сумы выплат па замежным доўгу рэкордныя.

Беларускаму грамадству застаецца развесці рукамі і запытацца, чаму працоўны графік галоўнага чыноўніка краіны застаецца напаўпразрысты.

**Мікола Бугай**
**«Наша Ніва»**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# НЕ ПАДМАНУЦЦА ПАСЛЯ ЛУКАШЭНКІ

**Выбары без Лукашэнкі з'яўляюцца абавязковай, але недастатковай умовай дэмакратызацыі ў Беларусі, мяркуе лідар Руху "За Свабоду" Аляксандр Мілінкевіч.**

25 сакавіка ў Мінску на канферэнцыі "Ідэалы БНР у цяперашні час" Мілінкевіч зазначыў, што апазіцыя "часта канцэнтруецца на рэжыме Лукашэнкі, але рэдка кажа, што будзе пасля яго". "Першыя незалежныя выбары пасля Лукашэнкі могуць канчаткова вырашыць лёс Беларусі. Але думаць, што пасля іх абавязкова ў краіне будзе дэмакратыя, не варта", — сказаў ён.

На думку палітыка, рэйтынг апазіцыі складае 20-30%. "Пасля сыходу з улады Лукашэнкі грамадства будзе расколата. Яно можа паверыць не толькі дэмакратычнаму праеўрапейскаму кандыдату ў прэзідэнты, але і прарасійскаму, які будзе абяцаць танны газ і рост зарплат. На фоне крызісу людзі будуць у першую чаргу думаць пра свае кішэні", — сказаў ён.

Лідар Руху "За Свабоду" мяркуе, што апазіцыі неабходна ясна ўсведамляць сваю адказнасць на выбарах, таму што "падзеі будуць развівацца дастаткова хутка".

Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў са шкадаваннем зазначыў, што беларускае грамадства "ўспрымае апазіцыю толькі ў тым плане, што яна супраць Лукашэнкі". "Апазіцыя не асацыюецца з тым, за што яна выступае. Наша памылка заключаецца ў тым, што мы не можам данесці сваю пазіцыю да насельніцтва ў той частцы, за што выступаем", — заявіў ён.

**БелаПАН**

ЗАМЕЖНЫЯ ПАЕЗДКІ

# ЧАКАЕМ МЬЯНСКІ ВАРЫЯНТ?

**Беларусь прадала ў М'янму 1000 фламастэраў, 4 скрыні гарэлкі і 6 трактароў. І гэта пасля візіту беларускай дэлегацыі, які «перасягнуў усе чаканні».**

Афіцыйныя СМІ падлічылі эканамічны эфект ад сустрэчы кіраўніцтва Беларусі і Інданезіі - 400 мільёнаў даляраў. Амаль тое ж самае казалі пасля паездкі прэм'ера Міхаіла Мясніковіча ў М'янму:

"Падпісаны шэраг міжнародных і міжурадавых пагадненняў. Заключаны новыя кантракты на пастаўку тавараў на агульную суму больш за 200 мільёнаў даляраў. Сярод галоўных кірункаў - пастаўка калійных угнаенняў, аўтатэхнікі, шын, камплектуючых ..."

Мінсельгасхарч распавёў Еўрарадыё пасля гэтага візіту, што жыхары М'янмы пыталіся, што такое хлеб і ці можна яго есці. Што ж, пыталіся пра хлеб - мы паставілі ім хлеб. У 2012 годзе М'янма купіла ў нас хлеба на 100 даляраў.

Што яшчэ мы прадаем у гэтую краіну? Адказ знаходзім на сайце Белстата ў справаздачы па экспарту за 2012 год.

На 1000 долараў мы прадалі туды рознага шакаладу, яшчэ печыва на 100 даляраў, на 200 даляраў гарэлкі - гэта 3-4 скрыні, і на такую ж суму іншых моцных напояў. А таксама 3 валізкі - можа, іх выкарыстоўвалі для перавозкі?

На 1200 доляраў прадалі друкаванай прадукцыі, 400 каляндарыкаў, скуранога абутку - на 4200 даляраў, яшчэ тысячу фламастэраў і столькі ж шарыкавых ручак.

Колькі ж прадалі аўтатэхнікі? 6 трактароў за 56 тысяч даляраў. А шын і камплектуючых на 3 тысячы.

Усяго прадукцыі ў Белстата налічылі на 100 тысяч даляраў.

**Віталь Ругайн**
**Еврорадио**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ААН ПАДТРЫМАЛА БЯЛЯЦКАГА

**У сёньняшняй рэзалюцыі Рада ў правах чалавека ААН асудзіла практыку крымінальнага пераследу праваабаронцаў з-за крыніц паходжаньня іх фінансаваньня.**

«Гэтамоцны сыгнал падтрымкі ад ААН праваабаронцам ва ўсім сьвеце, якім не дазваляюць атрымліваць фінансаваньне, якіх пазбаўляюць легітымнасьці і супраць якіх узбуджаюць крымінальныя справы за іх праваабарончую дзейнасьць» – пракамэнтавала рэзалюцыю Сугайр Бэльхасэн, старшыня Міжнароднай фэдэрацыі праваў чалавека.

У прэс-рэлізе з нагоды гэтай рэзалюцыі міжнародныя праваабаронцы падкрэсьліваюць, што яна мае непасрэднае дачыненьне да справы Алеся Бяляцкага, якога, паводле заключэньня Працоўнай групы ААН у справе неабгрунтаваных затрыманьняў, асудзілі ў Беларусі ў парушэньне міжнародных абавязаньняў краіны ня ўмешваецца ў фінансаваньне дзейнасьці недзяржаўных праваабарончых арганізацый.

Рэзалюцыю прапанавала Нарвэгія, да якой далучыліся 62 іншыя краіны. Рэзалюцыя была прынятая шляхам кансэнсусу.

**Радыё Свабода**

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

# ЗАКЛІК ДА САНКЦЫЯЎ СУПРАЦЬ «БЕЛАРУСЬКАЛІЮ»

**Кіраўнік праваабарончай арганізацыі Freedom House заклікаў да санкцыяў у адносінах да «Беларуськалію» і іншых беларускіх канцэрнаў, каб прымусіць Менск вызваліць палітвязьняў.**

Заява прагучала на сэмінары «Амэрыкана-беларускія адносіны: правы чалавека і дыпляматыя», які прайшоў у Джорджтаўнскім унівэрсытэцеў Вашынгтоне 25 сакавіка.

Дэйвід Крэймэр заявіў, што рэжым Лукашэнкі працягвае гандляваць зброяй з краінамі-ізгоямі і парушаць фундамэнтальныя прававыя прынцыпы дэмакратычнай дзяржавы, аднак у арсэнале ЗША і Эўразьвязу яшчэ ёсьць нявыкарыстаныя мэтады ціску на беларускія ўлады дзеля таго, каб тыя выпусьцілі зь беларускіх турмаў 11 палітычных зьняволеных і правялі ў краіне дэмакратычныя пераўтварэньні.

Адной з такіх мер узьдзеяньня, паводле кіраўніка Freedom House, можа стаць накладаньне эканамічных санкцыяў на буйныя беларускія канцэрны, у прыватнасьці, на «Беларуськалій».

«Бясспрэчна, прадпрыемства „Беларуськалій“ — адно зь іх. Тым ня менш Эўрапейскі Зьвяз таксама павінен перагледзець свае гандлёвыя адносіны зь Беларусьсю ў цэлым, таму што павелічэньне аб'ёму гандлю падрывае эфэкт санкцыяў, уведзеных самім жа ЭЗ. Эўразьвяз зрабіў выдатную працу, што тычыцца санкцыяў, аднак гандаль зь Беларусьсю, гэта значыць — з Лукашэнкам, адбіваецца на эфэктыўнасьці зробленых захадаў».

На думку Крэймэра, Лукашэнка становіць пагрозу ня толькі дэмакратычнаму разьвіцьцю сваёй уласнай краіны, але і міжнароднай супольнасьці, бо ягоны рэжым працягвае пастаўляць зброю ў недэмакратычныя дзяржавы:

«Лукашэнка прадае зброю рэжымам-ізгоям. Існуюць асьцярогі адносна нарошчваньня Беларусьсю збройных арсэналаў, нягледзячы на тое, што краіна адмовілася ад сваіх запасаў ядзернай зброі пасьля распаду Савецкага Саюзу. Мне здаецца, мы павінны быць занепакоеныя адносна таго, што мадэль Беларусі пад кіраўніцтвам Лукашэнкі можа быць узятая за прыклад у іншых краінах. Гэта значыць, што яго рэжым пагражае ня толькі тым, хто жыве ўнутры краіны, але і за яе межамі».

Між тым дырэктар Эўрапейскага аддзелу пры Бюро па пытаньнях дэмакратыі, правоў чалавека і працы Дзяржджэпартамэнту ЗША Майкл Уехара, які таксама прысутнічаў на мерапрыемстве, заявіў «Голасу Амэрыкі», што ў сувязі з сытуацыяй, якая склалася, урад ЗША паставіў перад рэжымам Лукашэнкі шэраг простых умоў: «У адносінах зь Беларусьсю абставіны склаліся так, што рэпутацыя беларускіх уладаў настолькі дрэнная, што мы вылучылі шэраг умоў, згодна зь якімі Беларусь павінна пачаць адпавядаць некаторым патрабаваньням, перш чым зь ёй будзе ўсталяваны дыялёг. Беларускія ўлады ведаюць пра тое, чаго мы ад іх чакаем, ведаюць нашы ўмовы. Як толькі яны будуць выкананыя, мы зноў зможам пачаць нармальны дыялёг. Беларусь — адзіная краіна, у якой з-за патрабаваньняў мясцовых уладаў мы былі вымушаныя зьнізіць колькасьць супрацоўнікаў нашай амбасады. У нас нават няма амбасадара ў гэтай краіне, а мець нармальны дыялёг пры адсутнасьці амбасадара адной з краін вельмі складана».

Уехара таксама заўважыў, што з прыходам Джона Кэры на пасаду дзяржсакратара палітыка ЗША ў дачыненьні да Беларусі ня зьменіцца:

«Злучаныя Штаты пасьлядоўна заклікалі ўрад Беларусі правесьці ў краіне зьмены ў галіне правоў чалавека, пашырыць палітычную прастору, а таксама ўзмацніць сыстэму стрыманьняў і процівагаў ва ўладзе. З прыбыцьцём Джона Кэры ў Дзяржджэпартамэнт палітыка ЗША ў дачыненьні да Беларусі застанецца бязь зьменаў».

**Радыё Свабода**

НАША СПАДЧЫНА

# ДЗЕЯЧЫ БНР БЫЛІ ДЭМАКРАТЫ

**Напярэдадні Дня Волі гісторык і даследчык Беларускай Народнай Рэспублікі Анатоль Сідарэвіч распавеў Еўраpадыё пра тое, хто стварыў беларускую дыпламатыю, чаму ў Маскве дзівіліся наяўнасці белага хлеба ў сталіцы БНР і як свята 25 сакавіка адзначалі нават камуністы.**

**- Гэта праўда, што паўнамоцтвы ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі прызнавалі нават бальшавікі?**

- Так, бальшавікі лічылі яе спраўднай дзяржавай. У рашэнні свайго цэнтральнага камітэта яны неяк пісалі, што "трэба дамагчыся, каб паўнамоцтвы ўрада БНР былі перададзеныя ўраду БССР". Значыць бальшавікі прызнавалі за ўрадам БНР паўнамоцтвы.

- На якія структуры ў рэгіёнах Беларусі абапіралася БНР?

- БНР абапіралася на беларускія рады, якія працавалі ў Магілёве, Гродне, Ваўкавыску, іншых гарадах. Вельмі знакамітая Слуцкая рада, якая ў 1920-м падняла антыбальшавіцкае паўстанне. Гэта былі сялянскія і работніцкія рады. А вось у Койданаве рада нават абвесціла незалежную рэспубліку.

**- Цяпер можна пачуць, калі беларускія чыноўнікі ці нават і афіцыйныя даследчыкі кажуць, што БНР не дамагалася ніякіх вынікаў. Якія ж сапраўды былі дасягненні органаў улады БНР?**

- Адно з іх — БНР стварыла беларускую дыпламатыю! (Анатоль Сідарэвіч паказвае кнігу, што ляжыць на ягоным стале — "Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў. 1914 — 1991 год".)

- Выйшаў першы том пад рэдакцыяй міністра замежных спраў Сяргея Мартынава. І вось у гэтым томе змешчаныя дакументы БНР.

Таксама БНР стварыла беларускае казначэйства, беларускую гандлёвую палату, якая паспяхова гандлявала ў 1918-м годзе з Украінай.

-Калісюды прыйшлі бальшавікі, па Маскве разнесліся чуткі, што ў Мінску ёсць белы хлеб! Але прайшлі 2 тыдні пасля прыходу бальшавікоў і белы хлеб знік, а за ім пачаў знікаць і чорны…

**- Спадар Анатоль, а як людзі, жыхары Беларусі адносіліся да БНР?**

- Вось я маю перад сабой два тамы зборніка дакументаў "Архівы БНР". Паглядзіце колькі тут лістоў ад людзей да ўрада БНР. Людзі звярталіся ў розных справах і атрымлівалі дапамогу. Вось беларусы з Моўчадзі (гэта каля Баранавічаў) просяць кіраўніцтва БНР прыслаць ім настаўніка, які б выкладаў у школе беларускую і нямецкую мовы, ды абяцаюць плаціць яму заробак са сваіх грошай.

Паводле слоў Анатоля Сідарэвіча, у БНР было роўнае стаўленне да нацыянальных меншасцяў. У 2-й устаўной грамаце Рады БНР была абвешчаная роўнасць моваў народаў БНР, а ва ўрад былі ўведзеныя прадстаўнікі яўрэяў, расіян, палякаў.

**- А ці ведалі пра Беларускую Народную Рэспубліку ў свеце?**

- Прэм'ера БНР Антона Луцкевіча прымаў прэзідэнт Чэхіі Тамаш Масарык, тройчы прымаў начальнік Польскай дзяржавы Язэп Пілсудскі. БНР прызналі Фінляндыя і Эстонія. Наша вайскова-дыпламатычная місія дзейнічала ў Рызе. Была падпісана дамова аб ўзаемным прызнанні з Літвой. Ураду БНР даваў дзяржаўныя пазыкі ўрад Украіны. Консул БНР Алесь Бурбіс прадстаўляў, дарэчы, абсалютна легальна, інтарэсы беларускай дзяржавы ў Маскве. БНР не толькі ведалі, але і рэагавалі!

**- Можна нярэдка пачуць, што, каб не было БНР, не было б БССР…**

- Нават камісар Рэйнгальд, сябра першага ўрада БССР, казаў, што "калі б не было беларускай рады (гэта значыць рады БНР), то не было б БССР".

**- Але савецкая традыцыя шальмавання ўсяго, што звязана з першай спробай здабыцця беларускай дзяржаўнасці ў XX стагоддзі, жыве і сёння, ужо ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь?**

- Бальшавізм характэрызуе непрымірымасць да іншадумцаў, да іншых класаў, да іншых рэлігій і ідэялогій. Да гэтага часу людзі не могуць пазбыцца гэтага. Думаць не вузка-групавымі, вузка-сацыяльнымі, а думаць нацыянальнымі інтарэсамі людзі не умеюць. І не хочуць! Яны наўмысна дзеляць грамадства на "сваіх" і "чужых".

Цяперашнія ўлады не могуць маўчаць пра 25 сакавіка, але і адкрыта не кажуць, і не прызнаюць. Анатоль Сідарэвіч нагадвае, што дагэтуль у Мінску няма вуліцы першага прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі Ўсевалада Ігнатоўскага. Няма вуліцы, якая б насіла імя людзей, што сталіся бацькамі беларускай дзяржаўнасці — братоў Івана і Антона Луцкевічаў. Мала таго, на тым месцы дзе калісьці стаяў дом Луцкевічаў у сталічным Купалаўскім парку вырашана пабудаваць… рэстаран.

( у скарачэнні)

**"Еўрапейскае радыё"**

АСАДЗІ НАЗАД!

# КРЫМІНАЛЬНАЙ СПРАВЫ СУПРАЦЬ ARCHE» НЕ БУДЗЕ

**У завядзенні крымінальнай справы па выніках праверкі ўстановы «Рэдакцыя часопіса „Архэ-Пачатак“» адмоўлена.**

Такую інфармацыю паведаміў 22 сакавіка бухгалтару ўстановы Алене Казловай адвакат, які прадстаўляе інтарэсы рэдакцыі.

Супрацоўнік Упраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў па Мінску і Мінскай вобласці Камітэта дзяржкантролю, адказны за праверку дзейнасці ўстановы «Рэдакцыя часопіса „Архэ-Пачатак“», паведаміў, што не ўпаўнаважаны выказвацца на гэтую тэму. У прэс-цэнтры КДК сказалі, што пакуль не валодаюць інфармацыяй на гэты конт.

Калі інфармацыя адпавядае рэчаіснасці, то рахунак установы, які быў заблакаваны з 4 кастрычніка мінулага года, павінен быць разблакаваны.

Нагадаем, што праблемы ў часопіса пачаліся 14 верасня 2012 года з затрымання былога галоўнага рэдактара «Arche» Валера Булгакава.

Супрацоўнікі міліцыі і падатковай інспекцыі затрымалі яго ў Гродне на прэзентацыі кнігі Я. Шумскага «Саветызацыя Заходняй Беларусі» і абвінавацілі ў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці.

21 верасня супрацоўнікі ўпраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў (УДФР) прыйшлі ў друкарню, дзе выдаваўся часопіс, з праверкай. 24–28 верасня з друкарні былі забраныя ўсе дакументы за апошнія два гады дзейнасці часопіса. 2 кастрычніка было арыштавана больш за 5 тысяч асобнікаў кніг з асабістай калекцыі Булгакава.

4 кастрычніка на УДФР быў выкліканы заснавальнік часопіса «Arche» Андрэй Дынько. Пасля гэтага было прынята рашэнне вызваліць Булгакава ад пасады галоўнага рэдактара «Arche», каб выратаваць выданне. У межах праверкі дзейнасці рэдакцыі Упраўленне ДФР па Мінскай вобласці і г. Мінску вынесла прадпісанне прыпыніць аперацыі па рахунках «Arche-Пачатак», — нагадвае ГА «БАЖ».

Хадайніцтва ГА «БАЖ» аб разблакаванні рахунку рэдакцыі часопіса Дэпартамент фінансавых расследаванняў адхіліў, спасылаючыся на непрадастаўленне шэрагу патрэбных дакументаў. Прадстаўнікі рэдакцыі, са свайго боку, называюць гэтыя прэтэнзіі беспадстаўнымі.

18 кастрычніка Валер Булгакаў за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць быў аштрафаваны на 500 тысяч рублёў. У пачатку лістапада Булгакаў пакінуў Беларусь, асцерагаючыся крымінальнага праследу.

**baj.by**

# СПРАВА СУПРАЦЬ ПАЧОБУТА РАЗВАЛІЛАСЯ

**Упраўленне Следчага камітэта Беларусі па Гродзенскай вобласці завяршыла расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да журналіста польскага выдання «Gazety Wyborczej» Андрэя Пачобута, абвінавачанага ў паклёпе на Лукашэнку.**

«Упраўленнем Следчага камітэта Беларусі па Гродзенскай вобласці завершана расследаванне крымінальнай справы, узбуджанай па ч.2 ст.367 КК Рэспублікі Беларусь (паклёп у дачыненні да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, здзейсненая асобай, якую раней судзілі за паклёп) у дачыненні да Пачобута А.С." , — паведамілі агенцтву «Інтэрфакс-Захад» у групе інфармацыі і сувязі з грамадскасцю ўпраўлення СК па Гродзенскай вобласці.

«У сувязі з тым, што высновы лінгвістычных экспертыз разыходзяцца, а ў часе папярэдняга следства не здабыта аб'ектыўных дадзеных, якія пацвярджаюць здзяйсненне Пачобутам дадзенага злачынства, 15 сакавіка 2013 вынесена пастанова аб спыненні папярэдняга расследавання ў сувязі з недаказанасцю ўдзелу абвінавачанага ў здзяйсненні злачынства. Згодна з гэтай жа пастановы абраная ў дачыненні да Пачобута мера стрымання ў выглядзе падпіскі аб нявыездзе і належных паводзінах адменена «, — удакладнілі ў СК.

«Я даведаўся пра гэта сёння, а 19.04, — расказаў НН Андрэй Пачобут. — Пра закрыццё маёй справы напісаў „Інтэрфакс", пасля ўжо адвакат званіў у Следчы камітэт, дзе сказалі, што мне яшчэ высланае афіцыйнае паведамленне аб гэтым, якое я яшчэ атрымаю». Закрыццё сваёй справы журналіст ацэньвае як палітычнае рашэнне, прынятае пасля таго, як яго не ўдалося прымусіць з'ехаць з краіны: «Мяне тады дэманстратыўна арыштавалі, хоць я быў толькі падазраваны, азнаёмілі з вынікамі экспертызы, з якіх адназначна вынікалі і паклёп, і знявага, і многае іншае. Калі б пасля вызвалення пад падпіску я захацеў рушыць куды-небудзь у бок Масквы, мне б, думаю, яшчэ далі эскорт, каб ніхто не спыніў».

Эксперту, на высновах якога грунтавалася абвінавачанне (а гэта дзяржаўны ідэолаг Кізіма), апраўданы Пачобут не мае чаго сказаць: «Гэта марыянеткі, яны кажуць тое, што ім загадаюць».

Пачобут пэўны, што закрыццё яго справы будзе пададдзенае беларускімі ўладамі як «станоўчы жэст у бок Захаду».

* * *

Нагадаем, карэспандэнта арыштавалі ў чэрвені 2012 года, але пасля выпусцілі пад падпіску аб нявыездзе. Андрэя Пачобута абвінавацілі ў паклёпе на Лукашэнку. Падставамі для абвінавачвання сталі артыкулы Пачобута на сайтах charter97.org і «Беларускі партызан». Яму пагражала пазбаўленне волі на тэрмін да 5 гадоў. Пачобут быў прызнаны вязнем сумлення.

СПАЖЫВЕЦКІ РЫНАК

# ЯКАЯ ЯНА - БЕЛАРУСКАЯ «ТАННАСЦЬ»?

**«Мы сёння накармілі свой народ, і кошты ў нас значна ніжэй, чым у Расіі і Украіне, у Еўрасаюза, навакольных дзяржаў - значна ніжэй», - заявіў кіраўнік Беларусі ў інтэрв'ю Russia Today. Эканаміст Леанід Заіка, у сваю чаргу, тлумачыць: якая яна - беларуская «таннасць».**

Зусім нядаўна Галоўнае статыстычнае ўпраўленне сталіцы паведаміла, што толькі на прадукты харчавання мінская сем'і марнуюць 42,4% свайго даходу - амаль палову сямейнага бюджэту.

Цяпер параўнаем менскія і еўрапейскія кошты - рэпартажы на гэтую тэму з'яўляюцца ў беларускіх СМІ ў апошні час рэгулярна.

Літва. Кілаграм свініны ў Вільні, у пераліку на айчынную валюту, каштуе прыкладна 40.000 беларускіх рублёў, у той час як у Менску цана складае 65.800 рублёў. Кілаграм памідораў у Вільні каштуе прыблізна 23.000. У беларускай сталіцы за кіло таматаў прыйдзецца заплаціць прыкладна 46.000, піша Onliner.by.

Кіло цвёрдага літоўскага сыру стаіць у Вільні 63.300, а ў Мінску за гэты ж вага трэба раскашэліцца на 79.000. Нават бульба ў Вільні і тая танней: кілаграм каштуе 2.600 рублёў (на мінскай Камароўцы яе прадаюць за 3.000).

Польшча. Што тычыцца коштаў на прадукты харчавання ў польскім Беластоку і Мінску, то і тут параўнанне не на карысць беларускай сталіцы. Кілаграм свініны ў Польшчы каштуе каля 40 тысяч у пераліку на беларускія рублі (мінская кошт указана вышэй). 200 грам молатай кавы - каля 30.000 (супраць ўпакоўкі вагой у 250 грамаў, якая ў Мінску абыдзецца ў 120.000), адзначае TUT.BY.

... Параўнальны шэраг можна працягваць, і гэта толькі прывядзе да высновы аб тым, што пры беларускіх заробках, якія значна ніжэй еўрапейскіх, нашы суайчыннікі плацяць за некаторыя асноўныя прадукты ў разы больш, чым еўрапейцы.

«Мы не паедзем у Вільню ці Варшаву»

- Гэта нават не папулізм - гэта спроба супакоіць насельніцтва, якое і так усё бачыць і разумее, - сказаў у экспрэс-каментары для «Салідарнасці" эканаміст Леанід Заіка. - Наколькі яна ўдалая? Каб зразумець, наколькі ў Беларусі «танныя» прадукты харчавання, я бы прапанаваў Аляксандру Рыгоравічу куды-небудзь са мной з'ездзіць. Мы не паедзем у Вільню ці Варшаву. Мы паедзем у Калінінград, дзе кілаграм свініны ў пераліку на беларускія рублі каштуе 4 даляра. А што ў Мінску? Правільна, кіло гэтай самай свініны каштуе 8-10 даляраў.

Не буду вас стамляць эканамічнай тэорыяй. Толькі скажу, што беларусу для таго, каб зарабіць на кіло мяса, трэба працаваць даўжэй, чым літоўцу або паляку. Гэта відавочна.

Тэзіс пра тое, што нехта там «накарміў народ», не тое каб сумніўны, - мінімум спрэчны. Праверыць гэты тэзіс таксама лёгка. Прапаную Аляксандру Рыгоравічу па восені наведацца на дачныя ўчасткі беларусаў. Можна ўзяць з сабой мегафон і расказваць: «Беларусы, мы вас накармілі». Я думаю, што гнаць чалавека з мегафонам гэтыя дачнікі будуць да самай мяжы. Таму што народ, каб неяк перазімаваць, прывык карміць сябе сам, нешта вырошчваць. Гэта зноў жа - з-за беларускай «таннасці».

**Віталь Гарбузаў**

**gazetaby.com**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 29.03.2013 у 17.40.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.